## ДНІ

**20 мая** – 60 год з дня нараджэння (1940) **М. Вяршыніна**, беларускага паэта–сатырыка, гумарыста.

**20 мая – Дзень фізічнай культуры і спорту**

**22 мая** – 100 год з дня нараджэння **М. Каспяровіча** (1900–1937), беларускага этнографа, мовазнаўцы і літаратуразнаўцы.

**24 мая – Дзень славянскага пісьменства і культуры**

**24 мая** – 80 год з дня нараджэння (1920) **Я. Заслаўскага**, беларускага архітэктара, педагога.

## ЖАНЧЫНЫ

# Пагроза больш небяспечная за яе выкананне

ГРОДНА. Галадоўка мясцовых мнагадзетных маці не адбылася. Пасля прыняцця рашэння пра гэта гарвыканком пайшоў насустрач жанчынам і выдзеліў для арганізацыі "Крыніца міласэрнасці" памяшканне.

"Штаб–кватэра" жанчын будзе размяшчацца ў цэнтры горада, арэндная плата складае чыста сімвалічную суму. Прадстаўнік гродзенскіх прадпрымальнікаў **Валерый Леванеўскі** гаворыць, што быў здзіўлены нязвыклай ветлівасцю чыноўнікаў гарвыканкома.

Застаецца толькі здагадвацца аб прычынах такой гасціннасці тамтэйшай "вертыкалі" і спадзявацца, што ў далейшым будзе не горш. Гродзенскія прадпрымальнікі і "аб'яднаныя грамадзяне" здымаюць таксама свае патрабаванні аб адстаўцы старшыні гарвыканкома **А. Пашкевіча.**

*Аддзел інфармацыі.*

## ГРАМАДСТВА

# Механізатар бульбакапалку не краў

АСТРАВЕЦ. У праваахоўным цэнтры, які створаны пры мясцовым клубе выбаршчыкаў, жыхары раёна могуць бясплатна атрымаць кваліфікаваную юрыдычную дапамогу. Цэнтр абараняе правы грамадзян у судах, аказвае паслугі пры афармленні розных дакументаў, у тым ліку, і міжнароднага характару.

Прадстаўнік цэнтра **Іван Крук** гаворыць, што толькі за апошнія 5 месяцаў сюды па дапамогу звярнуліся каля 30 чалавек. Быў нават выпадак, калі цэнтр дапамог чалавеку пазбегнуць турмы – так завяршылася справа механізатара калгаса "Рытаньскі" **Леаніда Вайцюля.**

Яму было прад'яўлена абвінавачванне па артыкуле 91 "прым" Крымінальнага Кодэкса РБ – крадзеж у асабліва буйных памерах. Яшчэ ў канцы мінулага года гэты чалавек абвінавачваўся ў крадзяжы калгаснай бульбакапалкі, што была замацаваная за ім у час уборкі бульбы ўраджаю 1998 года.

Натуральна, Леанід Вайцюль не захацеў пакутаваць з–за несправядлівага прыгавору і звярнуўся ў цэнтр па юрыдычную дапамогу. У выніку Івана Крука дапусцілі да крымінальнай справы. У ходзе азнаямлення з ёй выявіліся грубыя парушэнні нормаў Крымінальнага Кодэкса, дапушчаныя ў ходзе папярэдняга следства. Доказы невінаватасці падсуднага былі знойдзеныя, і чалавек застаўся на волі.

*Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.*

## ПАЛІТЫКА

# Партыю БНФ зарэгістравалі

МІНСК. Прадстаўнікі грамадскай арганізацыі БНФ "Адраджэньне" атрымалі ў Міністэрстве юстыцыі пасведчанне аб рэгістрацыі Партыі БНФ за № 0019.

Асноўныя мэты дзейнасці Партыі БНФ – ажыццяўленне Праграмы грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэньне" шляхам удзелу ў фарміраванні органаў дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь.

Кіруе партыяй, як і раней, Сойм, а адрас – "вул. Варвашэні, 8" – знаёмы многім беларусам.

*Аддзел інфармацыі.*

## МЕДЫЦЫНА

# З гісторыі службы крыві

Мінскай абласной станцыі пералівання крыві ў Маладзечне споўнілася 55 год. Гісторыя яе пачынаецца з утварэння абласной станцыі пералівання крыві (АСПК) ў былым абласным цэнтры – Вілейцы – 14 мая 1945 года. Стваралася станцыя ў невялікім гарадку, напаўразбураным вайной, у вельмі цяжкіх умовах. У польскі перыяд ў павятовых бальніцах пераліванне крыві не мела шырокага распаўсюджвання. Прымяняліся прамыя пераліванні непасрэдна ад донара хвораму ў аперацыйным пакоі па ініцыятыве хірургаў пры крывацёках, што пагражалі жыццю.

Станцыя стваралася ўпершыню на тэрыторыі адной з абласцей Заходняй Беларусі. Не было абсталявання і аснашчэння, не было электрычнасці, водапровода, каналізацыі, не хапала дроў, не было транспарту, не хапала медыцынскага інструментарыя, медыкаментаў і рэактываў. Але калектыў, якім кіраваў **Пётр Карнавух**, пазней — кандыдат медыцынскіх навук, не шкадаваў дзеля справы сіл.

14 год АСПК знаходзілася ў будынку абласной бальніцы ў Вілейцы, займаючы невялікае цеснае памяшканне. Першага верасня 1959 года яна пераехала ў Маладзечна ва ўласны новы будынак, а на ранейшым месцы арганізавала аддзяленне пералівання крыві абласной бальніцы. Штат станцыі ў канцы 1945 года складаў 8 чалавек, у год пераезду ў Маладзечна — 22 чалавекі.

Самым галоўным пытаннем у па першым часе была праблема донарскіх кадраў. Былі моцнымі розныя забабоны, і медыцынскія работнікі станцыі і абласной бальніцы самі падавалі прыклад донарства. Першая група актыўных донараў — 104 чалавекі — складалалася з медработнікаў, рабочых і служачых Вілейкі. Насельніцтва Вілейкі на той час складала ўсяго некалькі тысяч чалавек, што было недастаткова. Таму ў 1947 годзе АСПК ўпершыню прыступіла да арганізацыі донарства сярод сельскага насельніцтва.

У студзені 1960 года ліквідуецца Маладзечанская вобласць. З таго часу Маладзечанская абласная станцыя пералівання крыві і аддзяленне пералівання крыві Вілейскай аблбальніцы падпарадкоўваюцца Мінскаму абласному аддзелу аховы здароўя, Маладзечанская АСПК становіцца Мінскай АСПК. З таго часу станцыя пералівання крыві стала цэнтрам донарства ў сталічнай вобласці. Гэтая галіна ў гарадах і раёнах вобласці дынамічна развівалася да канца васьмідзесятых гадоў. З 1988 года на работу службы крыві пачаў уплываць эканамічны крызіс, які набіраў моц. У Беларусі прыняты "Закон аб донарстве", дзе вызначаны шэраг ільгот для донараў, аднак сацыяльная абарона донарства патрабуе свайго вырашэння.

У 1988 годзе ўМаладзечне ствараецца Музей службы крыві Мінскай вобласці, якім загадвае кандыдат медыцынскіх навук Франц Світо, які на працягу 35 год кіраваў абласной службай крыві.

***Рэдакцыя ўдзячная кіраўніку Музея службы крыві Францу Світо і галоўнаму ўрачу Мінскай абласной станцыі пералівання крыві Уладзіміру Буйко за прадастаўленыя матэрыялы.***



*Аперацыйная медыцынская сястра Крывіцкай райбальніцы (з 1947 па 1992 гады) Ганна Вайцяховіч. Разам з хірургам П. Бочакам ў 1947 годзе праводзіла першыя пераліванні крыві. Пасля была адказная за пастаноўку справы пералівання крыві, навучала маладых медсёстраў, шмат разоў бязвыплатна давала сваю кроў хворым.*



*1950 год. Калектыў Вілейскай абласной станцыі пералівання крыві. Першы рад: урач Е. Малькова, урач О. Навіцкая, гал. урач П. Карнавух, дацэнт Г. Сегаль, старэйшая медсястра А. Сіманенка. Другі рад: санітарка А. Ількевіч, лабарантка М. Пракаповіч, медсястра С. Фёдарава, медыцынскі рэгістратар В.Пірожнікава, санітарка У. Дзядзёла.*

ФОТА З АРХІВА МУЗЕЯ СЛУЖБЫ КРЫВІ.

## ПОМНІКІ АРХІТЭКТУРЫ

# Крыжаўзвіжанскі касцёл у Вілейцы



ФОТА З АРХІВА «РГ».

ВІЛЕЙКА. У гэтыя веснавыя дні актыўна прыцягваюць увагу віляйчан і прыезджых размешчаныя ў цэнтры гарадка царква, пабудаваная ў 1866 годзе, і касцёл, які ствараўся ў 1906–13 гадах па праекце архітэктара Аўгуста Клейна.

Касцёл мае асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю ў гатычным стылі. Унутры размаляваны пад мазаічныя арабескі. Гэты помнік архітэктуры неаготыкі, які спалучае ў сабе стыль раманскай і гатычнай архітэктуры, прастаяў стагоддзе, уцалеў у ліхалецці другой сусветнай вайны. А ў 60-я гады ўлады горада дапусцілі, што Крыжаўзвіжанскі сабор дзівоснай прыгажосці ператварыўся ў тарны засмечаны склад, у павучынае царства.

Толькі ў 1988 годзе, калі пасаду старшыні гарвыканкома займаў **В. Глушкоў**, а загадчыцай аддзела культуры была **К. Шымакоўская**, пад кіраўніцтвам сталічнага архітэктара **Л. Паўлава** пачалася двухгадовая рэстаўрацыя касцёла. Але галоўную ролю ў такой высакароднай справе, як рэстаўрацыя, адыграла, напэўна, сям'я **Валянціны** і **Барыса Цітовічаў**, якія ў цяперашні час жывуць у вёсцы Заброддзе Нарацкага сельсавета.

Гэтыя людзі змагаліся за прыгажосць, якую пакінула пакаленне пачатку XX стагоддзя. Шмат сіл, розуму, душы ўклалі Цітовічы, каб удыхнуць жыццё ў гэтае цудоўнае збудаванне – пра тое ведаюць толькі блізкія і тыя, хто з імі працаваў у гарачыя дні аднаўлення касцёла. У наш час добрая справа сям'і незаслужана забытая.

У кастрычніку 1988 года касцёл паспяхова адрэстаўравалі і ён стаў называцца Домам мастацтва імя Н. Сілівановіча, у гонар вялікага земляка, што родам з вёскі Цынцавічы (працаваў, у прыватнасці, у сярэдзіне XIX стагоддзя на афармленні Ісаакіеўскага сабора ў Пецярбурзе з вядомым рускім мастаком К. Бруловым).

У дзень другога нараджэння касцёла, 16 кастрычніка 1988 года, віляйчане радаваліся, прыйшлі і з Маладзечна людзі паглядзець, які цуд стварылі рэстаўратары 80-х. Калі а 12-й гадзіне адчынілі галоўны ўваход у касцёл, перад жыхарамі горада паўстала кампазіцыя незвычайнай прыгажосці і велічы. Так гараджанам падарылі радасць: сюды пачалі прыязджаць хоры камернай музыкі, былі выстаўленыя карціны вядомых мастакоў. Вілейка ўсё больш пачынала жыць культурным жыццём. А ў 1990 годзе касцёл перадалі рэлігійнаму таварыству рымска-каталіцкай царквы.

*Кірыл МАКСІМАЎ.*

## ПАЖАРЫ

# У вілейскіх пажарных няма бензіну



### У рэгіён прыйшоў пажаранебяспечны перыяд

***У лес проста так цяпер не з'ездзіш: распараджэннямі райвыканкомаў забаронены да асаблівага распараджэння ўезд усіх відаў транспарту ў лясы і тарфянікі рэгіёна і наведванне іх насельніцтвам. Гэта выклікана павышанай пажаранебяспечнай сітуацыяй.***

*ВІЛЕЙКА. Калі прыйдуць на Вілейшчыну сур'ёзныя лясныя ці тарфяныя пажары, выехаць тушыць іх не будзе на чым. З 23 красавіка ў Вілейскім лясгасе адбылося 12 пажараў. Знішчана 2,88 гектара лесу. "Леснікі" за гэты перыяд зрабілі 40 выездаў на тушэнне травы. У той жа час атрад пажарнай ваенізаванай службы 7 разоў выязджаў на тушэнне лясоў (плошча пажараў 3 гектары), 5 — на тарфянікі (0,97 гектара), 4 — на тушэнне травы. Усе лічбы па стане на 13 мая.*

У рэгіёне настаў пажаранебяспечны перыяд: даўно не было дажджоў, таму пажарныя знаходзяцца ў баявой гатоўнасці. Хаця ў Вілейцы гэта, бадай, гучна сказана: у мясцовым атрадзе пажарнай службы амаль няма бензіну.

– Добра, што справа не дайшла да сур'ёзных пажараў, – гаворыць інспектар дзяржпажнагляду **Алена Альфер**, – а то і паехаць не будзе на чым. Няма ніякага запасу.

Пакуль яны перабіваюцца разавай "спонсарскай" дапамогай. Даводзіцца канстатаваць, што такіх цяжкасцяў не было, мусіць, ніколі. Дзіўна, што зарплату яшчэ плацяць больш–менш рэгулярна.

Для чарговай рэйдавай паездкі, прыкладам, бензін прадаставіў вілейскі прадпрымальнік. Такія рэйды (ахопліваюцца пажаранебяспечныя мясціны раёна) праводзяцца штодня. На ўсялякі выпадак захапілі пратаколы (можа, хто вогнішча ў лесе развядзе?) і паехалі.

Дапамагае пажарным халоднае надвор'е апошніх дзён: у лесе і на вадаёмах людзей мы не заўважылі, ды і, на шчасце, дзеючых пажараў у раёне не было. Але пажарныя ўпэўненыя, што ўсё яшчэ наперадзе – параўнайце з мінулагодняй статыстыкай, калі ў раёне адбылося 136 пажараў: лясных – 45 (плошча 252,75 га), тарфяных – 91 (161,03 га), усяго 136 (413,78 га).

Асноўнай прычынай пажараў з'яўляецца няўважлівасць людзей: непатушаныя вогнішча ці цыгарэта могуць нарабіць шмат бяды. Ёсць і самаўзгаранні, калі шкло ў пабітай бутэльцы выступае ў якасці лінзы, праз якую сонечныя промні могуць запаліць траву.

Дарэчы, з другой дэкады месяца маладзечанскія пажарныя брыгады знаходзяцца цяпер на тушэнні пажараў у Слуцку, Ждановічах і Любані (райцэнтры) – па адной машыне ў кожным пункце.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

### НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

**19 мая – Іоў–агурочнік.** Час сеяць гарох.

**21 мая – Іаан-Багаслоў.** На агародах сеялі моркву, агуркі, рэдзьку.

**22 мая – Мікола** веснавы (ці летні). "Да Міколы няма дабра ніколі – г. зн., няма пэўнасці ў надвор'і, і толькі Мікола "пагоду становіць".

**24 мая – Макей** мокры. Мокра на Макея – і лета не прасушыць, а сухі Макей прыйшоў – і лета не намочыць.

### РАЗМІНКА ДЛЯ ГАЛАВЫ

Нагадаю ўмовы мінулай размінкі "Канцэрт". Адзін чалавек вырашыў адпомсціць духавому аркестру, таму ён увайшоў у залу падчас выступлення, сеў у першы рад – і канцэрт імгненна быў сарваны. Што ён зрабіў?

Першым правільны адказ даў **Арцём Клімовіч** з Маладзечна: **той чалавек пачаў есці лімон**. Арцём стаў пераможцам (адзіным, на жаль) і, у адпаведнасці з умовамі конкурсу, атрымаў права на бясплатную прыватную аб'яву.

### ПЫТАННЕ – АДКАЗ

**– Калі надыдзе сусветны голад?**

**– Калі кітайцы пачнуць есці відэльцамі.**

### ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Частаваць можна, няволіць грэх



## Сэрца з агароднінай

***500 г сэрца, 1 бурак, 2 морквы, 1–2 салёныя агуркі, 1 вял. лыжка тлушчу, 1,5 вял. лыжкі мукі, соль, перац, лаўровы ліст.***

Сэрца ачысціць, прамыць, нарэзаць невялікімі кавалкамі, укачаць іх у муку і абсмажыць да ўтварэння румянай скарынкі. За тым перакласці ў чыгунок або каструлю, дадаць нарэзаныя скрылькамі салёныя агуркі, буракі, моркву, уліць булён або ваду і даволі доўга тушыць на слабым агні. Калі сэрца стане мяккае, пакласці лаўровы ліст, перац, соль, тушыць яшчэ 8–10 хвілін.

## Торт «Мурашнік»

Распусціце ***1 пачку маргарыну***, усыпце ***1/2 шклянкі цукровага пяску***, размяшайце, убіце ***2 яйкі***, дадайце ***1/4 маленькай лыжкі соды***, пагашанай воцатам або лімонным сокам, ***3–4 шклянкі мукі***. Усё размяшайце. Цеста павінна быць крутое, рассыпістае; пракруціце яго праз мясарубку, улажыце на бляху ў адзін слой, выпякайце пры тэмпературы 150° 20–25 хвілін, астудзіце і паламайце на кавалачкі. Бляшанку згушчонкі варыце 1,5 гадзіны. 6 маленькіх лыжак маку заварыце кіпнем і пакіньце яго для набухання. Кавалачкі печанага цеста выкладзіце ў міску і высыпце 3/4 часткі ад усяго маку, потым дадайце згушчонку і старанна перамяшайце. Атрыманую масу выкладзіце на блюда ў выглядзе горачкі, вярхушку пасыпце астатнім макам. Гатовы торт пастаўце ў халадзільнік.

### ПРОСТА АНЕКДОТ

Сустрэліся два сябры. Не бачыліся чвэрць стагоддзя; першы са здзіўленнем налічыў у доме другога ажно 16 дзяцей.

– Ты, мусіць, вельмі добра жывеш са сваёю жонкай? – заўважыў першы.

– Ды не, ты што! – адразу запярэчыў другі, маленькага росту, спакойны. – Яна ўвесь час бурчыць і шпыняе мяне. Шчыра кажучы, я баюся яе, як агню.

– Тады навошта та "настругаў" столькі дзетак?

– А ў натоўпе лягчэй згубіцца!

### ПАВАРУШЫ МАЗГАМІ

## Падзялі фігуру

### (вынікі папярэдняга задання)

Прывітанне, аматары матэматычных забавак! Адразу возьмем быка за рогі. Фігуру з мінулага нумара "РГ" можна падзяліць вось як:



І правільна гэта зрабілі **Сяргей Валынец, Іван Жамойдзін, Мікалай Кавалевіч, Саша Кендыш, Андрэй Ляхновіч, Сяргей Пагуда, Яўген Паслед, Раман Рай, Каця Северына, Сяргей Смалонскі, Юрый Юхневіч**. А птушка шчасця другі раз запар прыляцела да **Івана Жамойдзіна**. Ну і вязучы! Прыз чакае ў рэдакцыі.

На жаль, у розыгрышы прыза за мінулы тур не ўдзельнічалі **Іван Кліменак, Святлана Клімовіч** і **Мікалай Кавалевіч** з Вілейкі і маладзечанец **Аляксандр Паташкевіч**, адказы якіх прыйшлі ў рэдакцыю са спазненнем. Таму спяшайцеся ў гэты раз!

**Юля!** Я рады, што ты зноў вярнулася ў шэрагі прыхільнікаў нашай рубрыкі. Спадзяюся, што ў наступны раз твой адказ будзе трапны. Што чутно ў Маркаве?

## 8. Злучы лічбы

Паспрабуй злучыць між сабой клетачкі 1 і 1, 2 і 2, 3 і 3, 4 і 4, 5 і 5 так, каб лініі злучэнняў не перакрыжоўваліся, а таксама не праходзілі праз адны і тыя ж клетачкі. Паварушы мазгамі!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 3 | 1 | | |
| | | | | | | | |
| | 4 | | | | | 4 | |
| | | | | 5 | | | |
| 2 | | | | | | | 2 |
| | | | | | 1 | | |
| | 3 | | | | | | |
| | | | | | | | 5 |

**Дашлі рашэнне на паштоўцы** на адрас рэдакцыі і будзеш мець шанц выйграць прыз ад "Рэгіянальнай газеты". Да наступнай пятніцы! Ці ёсць навіны на вашай вуліцы? Напішыце.

*Якім, які заўсёды ПЯРЭЧКА.*



*Шчаслівы нумарок у мінулы раз выпаў на Івана Жамойдзіна з Маладзечна, якому дыплом ад "Рэгіянальнай газеты" і прыз – касету з эстраднай музыкай - уручылі ў рэдакцыі. Шчасце Івану усміхнулася і на гэты раз. Вось што значыць настойлівасць.*

ФОТА ДЗМІТРЫЯ ХАРЫТОНАВА.

### КРЫЖАВАНКА

*ад Ірыны Сахацкай*




**Па гарызанталях:** 1. Тое ж, што і маці. 7. Вышэйшае імкненне да чаго-небудзь. 11. Маці бацькі ці маці. 18. Сукупнасць нормаў паводзін. 19. Стан стомленага чалавека. 20. Станцыя паветранага транспарту, паветраны порт. 21. Мужчына ў адносінах да сваіх дзяцей. 22. Тэрмін у 100 гадоў. 23. Пралітая на паверхню вадкасць. 25. Усякае дробнае насякомае. 26. Ежа з морквы. 29. Плоская драўляная паласа для хаджэння па снезе. 30. Фінансавая крэдытная ўстанова. 31. Аддаленне ад чаго-небудзь. 33. Драпежная жывёла, падобная на сабаку. 35. Літара "ъ" у кірыліцы. 37. Чатырохколавая павозка на Блізкім Усходзе. 40. Млын, які працуе ад ветру. 41. Графічнае маляванне гука. 43. Змей. 44. Фізіялагічны стан спакою і адпачынку. 45. Стан гульні ў шахматах. 46. Прыстасаванне для сядзення на некалькі чалавек у выглядзе дошкі на ножках. 47. Кармавая частка верхняй палубы судна. 48. Нота.

**Па вертыкалях:** 1. Тое, да чаго імкнуцца, што трэба здзейсніць. 2. Імклівае наступленне на ворага. 3. Травяністая расліна сям'і паслёнавых з вялікімі лістамі. 4. Палачка, якой на што-небудзь указваюць. 5. Той, хто любіць што-небудзь смачнае. 6. Драпежная птушка з кароткай кручкаватай дзюбай і доўгімі вострымі кіпцюрамі. 7. Радзіма Адысея. 8. Малдаўскі кампазітар (муз. да фільма "Мой ласкавы і пяшчотны звер"). 9. Душэўнае пачуццё, перажыванне. 10. Строй музычнага твора, спалучэнне гукаў і сугуччаў. 11. Садовы куст з кветкамі-гронкамі. 12. Адзінка вымярэння плошчы. 13. Маленькі рэстаран. 14. Аўтарытэт, улада. 15. Куча сухога галля. 16. Глыбокі зараслы роў. 17. Пачатак спаборніцтваў. 24. Тое, што гавораць для забавы, весялосці. 27. Частка акіяна – вялікая водная прастора з горка–салёнай вадой. 28. Вялікая драпежная змяя тропікаў і субтропікаў. 29. Нутраны тлушч. 30. Хуткі рух. 32. Лічба. 34. Хатняя жывёла, самец кошкі. 36. Лодка Т. Хеердала. 38. Літара грэчаскага алфавіта. 39. Каманда звярам у цырку. 41. Жанр выяўленчага мастацтва з паказам голай натуры. 42. У старажытнакітайскай міфалогіі – плаваючая ў моры вялікая чарапаха з трыма гарамі на спіне.

## За разгадванне крыжаванак

**На конкурсе разгадвальнікаў крыжаванак перамог Анатоль РОГАЧ з Вілейкі – ён атрымае скрынку піва маладзечанскага піўзавода. Ненашмат ад пераможцы адстаў і маладзечанец Раман Рай, якому будзе ўручаны заахвочвальны прыз.**

***Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №19***

**Па гарызанталях:** 3. Кмен. 4. Лета. 7. Араты. 8. Горад. 9. Берагг. 13. Грак. 15. Крухмал. 16. Корх (уст.). 17. Крыўда. 18. Мастак. 22. Глыб. 23. Таракан. 24. Абух. 27. Пасаг. 28. Коска. 29. Подых. 31. Тона. 32. Доля.

**Па вертыкалях:** 1. Века. 2. Веды. 3. Кабан. 5. Адзёр. 6. Рапуха. 8. Гара. 10. Гора. 11. Ураджай. 12. Каравай. 14. Кораб. 16. Крама. 19. Слуп. 20. Парада. 21. Буда. 25. Чарот. 26. Поўня. 29. Пані. 30. Хвоя.

### ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

## Рэйд па скварку

Многія ў свой час былі студэнтамі, жылі ў інтэрнатах, таму сітуацыя, мусіць, знаёмая. Весела было.

Мой сябар Лёня таксама жыў весела. Як вынік такога жыцця, грошы і прадукты заканчваліся недзе ў сярэдзіне кожнага месяца. Пасля гэтага ён з яшчэ адным знаёмым – Сашам – пераходзілі на падножны корм. Але голад, як вядома, магутны стымулятар думкі.

Увечары, калі ў нармальных (невясёлых) студэнтаў надыходзіў час прыгатавання ежы, Лёня з Сашам пачыналі рэйд па кухнях і паверхах. Калі заўважалі якую–небудзь дзяўчынку, што смажыла прывезеныя ад мамы бульбачку з "пальцам пханай" кілбаскай альбо варыла супчык, пачыналі яе "пасвіць". Варта было дзяўчынцы на хвілінку сысці з кухні (па соль ці перац, прыкладам), як хлопцы хапалі патэльню і імчаліся да сябе ў пакой, дзе цынічна з'ядалі ўсё, што было ў пасудзіне. Пустую тару высакародна падкідалі гаспадыні.

Кажуць, бог шэльму пазначае. Скончылася некалі ў хаўруснікаў чорная паласа ў жыцці, і яны зажылі: пакуль Лёня смажыў бульбачку, а Саша ахалоджваў бутэлечкі, закарцела першаму сто грамаў перакуліць, адышоўся секунд на 20. Калі вярнуўся, патэльні (якое нахабства!) не было. Хвілін праз 10 яна вярнулася на пліту, але была старанна вылізаная.

Па характары злачынства хлопцы зразумелі, што маюць справу з хітрым, спрытным і нахабным супрацьўнікам. Крыху перажылі непрыемную падзею і пачалі рыхтаваць акт адплаты–помсты–пакарання. На наступны дзень яны мабілізавалі свае харчовыя рэсурсы і зноў узяліся кулінарыць; але прынаду папярэдне забяспечылі конскай порцыяй слабіцельнага.

Як яны стараліся! І проста адыходзілі (на тыя самыя 20 секунд), і адварочваліся, і наогул сыходзілі з кухні. НІ–ЧО–ГА. Кулінарны далікатэс прыйшлося накіраваць у смеццеправод.

На наступны дзень аперацыю паўтарылі – канцэнтрацыю слабіцельнага давялі да смяротнай дозы. Пашчасціла – скваркі зніклі разам з бульбай. Праз пару гадзін яны наладзілі засаду ля туалета. З інтэрвалам у некалькі хвілін туды стрымгалоў прыбеглі два супастаты. Хлопцы са здзіўленнем ідэнтыфікавалі ў іх аднакурснікаў з сяброўскага да іх пакоя – напярэдадні яны сваім ворагам яшчэ піва праставілі!

З улікам жудаснай колькасці з'едзенага пургену, тыя "сябры" з туалета амаль не выходзілі. На зыходзе другіх сутак яны вырашылі, што падхапілі дызентэрыю, таму пайшлі здавацца ў бліжэйшую бальніцу (ва ўніверсітэцкую паліклініку не паспявалі, бо дакладна ведалі паўзы паміж прыступамі). Нейкім цудам Саша з Лёнікам іх перахапілі. Калі парушальнікі канвенцыі дазналіся пра сапраўдную прычыну сваіх прыгод, то слёзна прасіліся нікому не расказваць. Лёня быў хлопец высакародны – палова курса ведала пра гэтае выхаванне асабіста ад яго.

Да канца вучобы замахі на маёмасныя правы хлопцаў ніхто не рабіў. А з адной з тых абакрадзеных дзяўчынак Лёня пазней ажаніўся. Сапраўды, за ўсё трэба плаціць.

*Сямён РАБІНОВІЧ.*

### ГАРАСКОП 22 – 28 МАЯ



**Авен (21.03–20.04)**

Дабратворна завершацца справы, звязаныя з даследаваннямі або вучобай. Жанчыны будуць удзяляць час хатнім клопатам. Вы зможаце палепшыць адносіны з іншымі членамі сям'і.



**Цялец (21.04–21.05)**

Можаце наткнуцца на пралік, які наўмысна дапушчаны калегам. Жыццё дома і ў сям'і ідзе добра. Калі вы закаханыя, вас чакаюць вельмі прыемныя выхадныя.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Цудоўныя стасункі з саслужыўцамі. Хатнія клопаты выйдуць на пярэдні план. Некаторыя з вас памяняюць сваё месца жыхарства або набудуць новы дом. Адносіны ў сям'і будуць сардэчныя.



**Рак (22.06–23.07)**

Ракі, якія мараць пра тое, каб атрымаць работу ў дзяржаўнай установе, могуць быць запрошаныя на субяседаванне. Адносіны па-за шлюбам выклічуць у вас толькі расчараванне і прыкрасць.



**Леў (24.07–23.08)**

Творчыя задумы знойдуць належнае ўвасабленне. Дома справы ідуць гладка. Замужнія выявяць, што іх другая палавіна вельмі захопленая асабістымі справамі. У адзінокіх магчымы кароткі раман.



**Дзева (24.08–23.09)**

Прадпрымальнікі падпішуць новыя кантракты на добрых умовах. Сямейнае жыццё пачынае паляпшацца, і вы можаце падумаць аб адпачынку ў кампаніі таго, каго кахаеце.



**Шалі (24.09–23.10)**

Спрыяльная магчымасць унесці змены ў сваю работу і кар'еру. Ад прапановы, зробленай блізкім сябрам або партнёрам па бізнесе, лепш устрымацца, таму што вас могуць падвесці ў апошні момант.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Тыдзень абяцае рознапланавыя перспектывы. Вам трэба стрымліваць сваё імкненне пафліртаваць, таму што можаце выклікаць непрыемныя плёткі. Сямейныя могуць балюча закрануць пачуцці сваёй другой палавіны.



**Стралец (23.11–21.12)**

Будзеце знаходзіцца ў спакойным і шчаслівым настроі. Ваша работа пастаўленая на добрыя рэйкі і вы змаглі дабіцца выдатных узаемаадносінаў паміж персаналам і адміністрацыяй.



**Казярог (22.12–20.01)**

Намаганні Казярогаў, якія займаюцца творчасцю, атрымаюць прызнанне і высокую ацэнку. Для бізнесменаў тыдзень будзе таксама спрыяльны. Хатнія справы ідуць роўна.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Вы будзеце хутка расці ў кар'еры і палепшыце сваё фінансавае становішча. Настойлівыя намаганні пачнуць прыносіць свой плён. У каханні ўсё складваецца ўдала. Студэнты павінны аддаваць больш сіл заняткам.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Важнае рашэнне прывядзе да буйных перамен у кар'еры. Тыя, хто планаваў пачаць самастойны бізнес, змогуць гэта зрабіць. У каханні ўсё цудоўна. У адзінокіх адбудзецца знаёмства з чалавекам, які адразу спадабаецца.

ЮБІЛЕІ

# Ганне Рубацкай – 100 год

З фотаздымка ўсміхаецца ў залу жанчына з добрымі вачыма, з крыху іранічнай, але ласкавай і добразычлівай усмешкай. Напэўна, са сцэны яна чытае сваё байкі. У гэтым месяцы Ганне Мікалаеўне Рубацкай споўнілася б 100 год.

Гэта пра яе пісаў у кнізе "Песню ў спадчыну" вядомы даследчык–фалькларыст Арсен Ліс, дзе расказаў пра звычайны лёс, але незвычайную душу народнай спявачкі, захавальніцы беларускай песеннай спадчыны з Валожына. Невыпадкова імя яе ён паставіў побач з імёнамі такіх беларускіх асветнікаў і дзеячаў культуры, як кампазітар Міхаіл Агінскі, збіральнік беларускай песні Антон Грыневіч, акадэмік Усевалад Ігнатоўскі. Ужо за тыя больш як сто беларускіх песень, якія Арсен Ліс запісаў ад Ганны Рубацкай на магнітафонныя стужкі, яна заслугоўвае такой пашаны. Але вельмі невялікае кола нават тых, хто цікавіцца культурнай спадчынай свайго народа, ведае, што пасля Ганны Міхайлаўны засталася не толькі песенная, але і паэтычная спадчына. Будучы ўжо ў сталым узросце, пасля 50 гадоў і да канца сваіх дзён (а памерла яна, калі было ёй 93 гады) пісала Ганна Міхайлаўна вершы.

Ганна Міхайлаўна Рубацкая нарадзілася ў вёсцы Жураўцы на Валожыншчыне ў звычайнай сялянскай сям'і. Вучыцца шмат не давялося, трэба было працаваць на гаспадарцы. Пасля жыццё нібы ўсміхнулася ёй, 15–гадовай трапіла ў Пецярбург, нейкі час працавала там на вялікім заводзе. Горад–цуд над велічнай ракой. Які, здавалася, неабдымны свет адкрываўся Ганне пасля вясковай глухамані. Але калі фронт шчыльна наблізіўся да валожынскай ваколіцы, вымушаная была вярнуцца ў родную хату, дзе неўзабаве памерла маці, і на плечы 17–гадовай дзяўчыны лёг увесь цяжар сялянскага жыцця. Даводзілася рабіць і мужчынскую, і жаночую справы: і мыць, і ткаць, і сеяць, і баранаваць адначасова.


Ганна Рубацкая.

*Сплываць гады,*
*шмат зменіцца*
*на свеце,*
*І золата, і камень*
*час кране.*
*А слова будзе жыць*
*тысячалецці,*
*І некаму напомніць*
*пра мяне.*

*Г. Рубацкая.*

Ваенныя ліхалецці, смерць дачкі, тры пажары, якія знішчылі ўсё, што было прыдбана цяжкай працай – усё вытрымала гэтая жанчына і захавала светлае ўспрыняцце жыцця, светлую душу, якая ўмела глядзець і бачыць, слухаць і чуць галасы Радзімы і роднага краявіду, людзей вакол сябе, філасафічна асэнсоўваць сутнасць чалавечага жыцця на зямлі.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны сям'я Рубацкіх пераехала ў Валожын. Як пісала Ганна Міхайлаўна ў адным з вершаў, "... мне ў вёсцы вельмі дакучала нібы святая цішыня". У Валожыне ў 1958 годзе ў раённай газеце "Працоўная слава" былі ўпершыню надрукаваныя вершы Ганны Рубацкай. Ва ўзросце, калі большасць жанчын ідзе на так званы "заслужаны адпачынак", Ганна Міхайлаўна становіцца пазаштатным супрацоўнікам газеты. За гады супрацоўніцтва ў газеце ў Ганны Міхайлаўны назбіраліся два тоўстыя сшыткі вершаў. Чытаеш іх і дзіву даешся. Адкуль у простай, малаадукаванай сялянскай жанчыны, змарнаванай цяжкай будзённай працай, столькі ведаў, такое тонкае ўспрыняцце навакольнага жыцця? А калі ўчытаешся, разумееш, што душа Ганы Міхайлаўны мечаная боскім дарам, талентам выказацца не толькі за сябе, а за тысячы беларускіх жанчын не пакалення, якія душой цягнуліся да ведаў, да высокага мастацтва. Жанчын мудрых і таленавітых, але змучаных жыццёвымі цяжкасцямі, якія так і адыходзілі на той свет, не спазнаўшы шчасця на гэтай зямлі. Нягледзячы на ўсе жыццёвыя складанасці, паэзія Ганны Рубацкай светлая. Тэмы падказвала само жыццё. Можна выдзеліць у творчасці некалькі галоўных напрамкаў: тэма Радзімы, лірыка, бытавыя замалёўкі, байкі.

Ужо ў вельмі сталым узросце Ганна Міхайлаўна пабывала на лячэнні ў Сочы, Дагестане, Літве. Параўноўваючы сваю Радзіму з больш экзатычнымі краінамі, яна знаходзіць, што лепшай за родную Беларусь не свеце няма. А колькі жыццёвай мудрасці, сакавітага гумару ў байках Ганны Міхайлаўны, якой смачнай беларускай мовай яны напісаныя! Трэба падкрэсліць, што ўся паэзія Ганны Міхайлаўны – беларускамоўная.

Ні ў адным з вершаў не знайсці скаргі на незайздросны лёс. Вельмі ўражваюць апошнія вершы Ганны Міхайлаўны, напісаныя ўжо дрыжачай рукой жанчыны, хваробай прыкаванай да ложка.

*Сышліся ў клін*
*усе мае дарогі,*
*Стаю на ўскраі*
*вечнага сяла.*
*У жыцці я працавала*
*вельмі многа,*
*А што людзям пакінуць*
*я змагла?*

Ганна Міхайлаўна Рубацкая пакінула сваю светлую паэзію і светлую памяць пра сябе. Яе вершы жывуць, да іх звяртаўся самадзейны кампазітар Іосіф Сушко, і яго песню на словы Ганны Рубацкай выконваў народны ансамбль Маладзечна "Спадчына". Малады кампазітар Алена Атрашкевіч скарыстала вершы Ганны Міхайлаўны ў трыпціху "Ой, крушына, крушына", які выконвае хор тэарэтычнага аддзялення музычнага вучылішча пад кіраўніцтвам унучкі – Людмілы Камінскай.

Няхай жа доўга жывуць паэзія нашай таленавітай землячкі і памяць аб ёй у нашых сэрцах. Пра астатняе няхай раскажуць яе вершы.

**Ядвіга БОХАН,**
*выкладчык музычнага вучылішча, Маладзечна.*

ЛЕТНІКІ

## «Зубраня» сустракае турыстаў

МЯДЗЕЛ. У вядомым рэспубліканскім летніку прайшлі рэспубліканскія спаборніцтвы юных турыстаў–краязнаўцаў (іх з'ехалася каля 150).

У аўторак адбылося ўрачыстае адкрыццё дэкады турызму і краязнаўства для дзяцей і моладзі, мерапрыемствы ў рамках якой пройдуць па ўсёй краіне.

*Алесь* **ВЫСОЦКІ.**

УСЕБЕЛАРУСКІ З'ЕЗД

## У краіне распачалося вылучэнне дэлегатаў на Усебеларускі З'езд.

Па стане на 15 траўня, на Усебеларускі З'езд ўжо вылучаныя 73 чалавекі ад розных рэгіёнаў краіны.

**Кантактны тэлефон Сакратарыята Усебеларускага З'езда (017) 2236529.**

ДАПАМОГА

## Дому-інтэрнату падарылі 5-тонную фуру

ВАЛОЖЫН. Дваццаць трэці гуманітарны візіт у Івянецкі дом–інтэрнат зрабіў на гэтым тыдні Ганс Вальтэр, вінароб па прафесіі. Акрамя адзення і абутку, прадуктаў харчавання, немцы "за адным разам" аддалі ў падарунак дому–інтэрнату і пяцітонную фуру, на якой усё гэта прывезлі.

*Наталля* **ШТЭЙНЕР.**

ЗАХАПЛЕННІ

# Знаўца птушынага спеву

***У наваколлях Маладзечна птушак шмат, але знаўцаў іх сярод нас – мала. Адзін з гэтай меншасці – Дзмітрый Халадзінскі. З трыццаці яго аднакласнікаў пасля вайны дваццаць тры трымалі галубоў. Вось і пранес гэты занятак Дзмітрый праз усё жыццё. Спачатку жыў у Мінску, а з 1981 года – у Маладзечне.***

Першы час захапляўся зборам новых відаў, потым заняўся вывядзеннем новых парод. У мінскім клубе ў 70–я гады галубамі займалася чалавек 300, але такіх апантаных, як ён, было няшмат. Тады ён браў удзел у рабоце па арганізацыі клуба, бо досвед бацькі і яго братоў не даваў спакою. Пасля цяга да галубоў змянілася цягаю да птушынага роду ўвогуле. Пачаліся шматлікія доследы па развядзенні дзікіх птушак у няволі. Увесь свабодны час прысвячаўся гэтаму.

Нават на рабоце ў міліцыі, дзе ён працаваў 22 гады (у групе захопу аддзела аховы Савецкага раёна Мінска і участковым інспектарам, аператыўным дзяжурным – ужо ў Маладзечне), яго ведалі як птушынага знаўцу. І ішлі па дапамогу і параду, калі птушкі хварэлі. Часам прыносілі скалечаных, выпадкова знойдзеных птушак. Па родзе дзейнасці сустракаў розных людзей, але птушкі былі для іх сэнсам жыцця. Адзін вядомы мінскі аўтарытэт–крымінальнік нават знайшоў у галубах сэнс свайго, амаль загубленага, жыцця.

Падчас размовы Дзмітрый Халадзінскі згадаў пра свайго сябра, амаль паралізаванага, які лазіў чысціць галубятню на руках, бо ногі не слухаліся. У тым, што яны пакінуць нашчадкам, сэнс жыцця гэтых людзей. Таму і прапагандуюць сваю дзейнасць, каб як мага больш людзей убачыла харawство птушынага свету.

На святкаванні 600–годдзя горада маладзечанцам спадабалася вялізная хмара белых галубоў. Гэта – вынік работы Дзмітрыя Халадзінскага. Займацца ён цяпер і выхаваўчай работай. У СШ №3 тры пакоі аддадзены пад гурток юных арнітолагаў. Ва ўсіх пакоях – клеткі з птушкамі. Настаўнік цяпер з дзецьмі кальцуе птушак па дазволе Рэспубліканскага цэнтра па кальцаванні птушак, які ўваходзіць у Міжнародную арганізацыю са штаб–кватэрай у Швейцарыі. Летась акальцавалі 118 птушак. Адну з раней акальцаваных злавілі аж у Італіі.

Удзельнічаў Халадзінскі ў выстаўках у Рызе, Вільні, Каўнасе, Чэлябінску, Растове, Сочы, Кіеве, Днепрапятроўску, Данецку, Маскве; яго работу адзначалі ганаровымі граматамі, пасведчаннямі і дыпломамі. Я налічыў больш за 60, у тым ліку, і міжнароднага ўзроўню.

Але цяпер справа яго жыцця ў заняпадзе. Моладзь амаль не цікавіцца гэтым заняткам. Засталіся, у асноўным, пенсіянеры – самым маладым аматарам па 40–50. Балазе, сыны Дзяніс і Артур з павагаю ставяцца да бацькоўскага занятку. У Маладзечне ж галубятнікаў усяго чатыры. Таму, каб сустрэцца з сябрамі, едзе Халадзінскі на "Лебядзіны". Пасля закрыцця Старажоўскага рынку ў Мінску гэта адзінае месца, дзе збіраюцца арнітолагі–аматары. Ды і зарабляць крыху трэба, бо гаспадарка немалая.

Калі мы зайшлі ў дом да Халадзінскага, першае, што ўразіла, – мноства птушак і пяць кітайскіх пекінесаў, якія выбеглі сустракаць гаспадара. Сабак у гэтай сям'і таксама любяць. Жылі тут і тойтэр'еры, і даберман, і нямецкая аўчарка, і вось пекінесы. Адрозненне ад іншых сем'яў у тым, што тут усе жывёліны чыстапародныя. Хоць гэта і не танна атрымліваецца. Нездарма сярод аматараў пароды былі браты Арловы, Касыгін, Брэжнеў, Чурбанаў, Чарнамырдзін – усе аматары галубоў. Кажуць, мэр Масквы Лужкоў аказвае падтрымку ў гэтай справе. Мо, Масква таму і славіцца сваімі галубамі?

З 1981 года беларусы пачалі ўдзельнічаць у міжнародных птушыных выстаўках. Спачатку вывозілі чужыя пароды, бо, каб паказваць свае, трэба было спачатку распрацаваць стандарты для іх ацэнкі. Потым узяліся за вывядзенне сваіх парод: узніклі вядомыя Мінскія бярозавыя, Мінская мурыя, Мінскія бярозавыя грачаныя. 20 год вывадзіліся яны, адраджаліся пасля вайны іншыя пароды. У некаторых краінах новыя пароды выводзяць па 80 год.

Пра свой досвед і дасягненні вырашыў Халадзінскі ў 1995 годзе напісаць кнігу. Вось толькі дзе знайсці сродкі на гэтае выданне, якое, мусіць, рвалі б з рук? Вось і чакае будучы аўтар падтрымкі. Падтрымалі ж у Мінску Леаніда Гермацкага – даўняга сябра – і адчынілі дзверы ў мікраёне "Паўднёвы Захад" міні–заапарк "Карлуша". Можа, і ў Маладзечне хто зразумее, што першыя, каму патрэбныя дзівацтвы гэтага дзівога дзядзькі, – гэта нашыя дзеці?

А пакуль што Дзмітрый Халадзінскі адукоўвае вучняў, збірае матэрыял для кнігі і корміць сваіх жывёл. Як жа не думаць пра нашчадкаў, калі ручны крумкач Карлуша штораніцы яго голасам раздае парады сабакам, вітаецца з суседзямі, а канарэйкі і папугаі вядуць свае чароўныя песні. Галоўнае, што жонка ягоную справу разумее і падтрымлівае, а ўсё астатняе – дробязі.

Маладзечанцы, хочаце мець свой заапарк? Я ўжо ведаю яго дырэктара.

*Алесь* **РАЛАВЕЦ.**


Калекцыя птушыных яек.


Вушастая сава.


Дзмітрый Халадзінскі з вучнямі – аматарамі птушак.

ФОТА З АРХІВА Д. ХАЛАДЗІНСКАГА.

